Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 22 — Вільня, Чацьвер, 7-га кастрычніка 1926 г. — Год I.

## Факты гавораць.....

Мінулы тыдзень у дзяржаўным жыцьці Польшчы быў нязвычайна паказальны. Шмат такога, што дагэтуль старанна было ўкрывана, разам выйшла наверх, і запраўднае абліччча пануючага ў Польшчы ладу, абліччча яўных ці ўкрытых дагэтуль абаронцаў гэтага ладу выявілася ўжо цалком.

Пасьля маёвага перавароту марш. Пілсудскі афіцыяльна як-быццам зрокся ўлады. Але-ж ні для кога ня было тайна, што—паза плячыма прэм'ера Бартля—ўсімі важнейшымі справамі кіруе думка „камэнданта“, што ўсё запраўды дзеецца паводле думкі і волі п. Пілсудскага. І хаця ад замены ўраду Вітоса на ўрад Бартля ў Польшчы жыцьцё зусім не палепшала, хаця ўсе тыя запраўдныя „камэнданты“ нашага жыцьця і волі на мясцох, якія так уеліся ў косьці народу, і далей рабілі тое, што пры папярэдніх урадах, захаваўшы свае становішчы і сваю ўладу, — аднак-жа п. Пілсудскі *фармальна* як-быццам быў тут невінаваты!—Цяпер, калі п. Пілсудскі ўрэшце выйшаў з укрыцьця і заняў становішча прэм'ера і ваеннага міністра,—ён гэтым самым узяў на сябе ўсю адказнасьць за тое, што робіцца і будзе рабіцца ў Польскай дзяржаве.

Мала таго: незалежна ад адказнасьці за агульны кірунак польскае палітыкі, п. Пілсудскі пасрэдна бярэ яе і за палітыку *ўнутраную*, бо на становішча міністра ўнутраных спраў ён паставіў *падлягаючага яму службова* генарала Славой-Складковскага... Гэтак у руках марш. Пілсудскага апынулася ня толькі войска, але і ўся адміністрацыя, уся паліцыя і ўсе зьвязаныя з ёй установы.

Чаго ждаць ад новае — ваеннае ўлады ў унутраным жыцьці дзяржавы? — Выпадак з паслом Зьдзеховскім, якога ў першую-ж ноч пасьля ўтварэньня ўраду п. Пілсудскага дапаўсьмерці пабілі дзесяць уваружаных афіцэраў, уварваўшыся ў яго кватэру, ці ня будзе тут вельмі паказальным?!.....

Дый склад новага ўраду зьяўляецца вельмі паказальным перадусім у галіне гаспадарчага жыцьця Польшчы. Усе галоўныя партфэлі ў гэтай галіне аддадзены..... абшарнікам і прадстаўнікам буйнага капіталу! — Міністэрства земляробства і дзяржаўных маемасьцяў, якое павінна абслугоўваць інтарэсы *двадцацёх міліёнаў сялян* і маленечкае жменькі паноў-абшарнікаў, аддадзена *аднаму з буйнейшых абшарнікаў* нашага краю Незабітоўскаму...

А суды?— Гэта-ж адна з найважнейшых галінаў жыцьця народу, гэта-ж установа, якая павінна бараніць нас ад усялякага беззаконьня, ад усялякіх гвалтаў ці то з боку прыватных людзей, ці дзяржаўных урадоўцаў.—І вось міністэрства справядлівасьці аддадзена ў рукі таксама вялікаму абшарніку—пану Мэйштовічу,—таму самаму, які быў галавой урадуючае камісіі так-званае „Сярэдняе Літвы“ і *бяз ніякага суда і сьледзтва загадаў выкінуць у Літву 33 беларускіх і літоўскіх культурных працаўнікоў*, ачарніўшы іх закідам бандытызму і ня даўшы магчымасьці на судзе даказаць усю бязглуздасьць такога абвіненьня.

Ужо з гэтага бачым, што за „захаваньне сацыяльнае раўнавагі“ ў Польшчы ўзяліся—пад кіраўніцтвам „самога“ пана маршалка—акурат прадстаўнікі тых клясаў і станаў, якім пры гэнай раўнавазе добра жывецца.... Дык ведама-ж, што, маючы ў сваіх руках поўную ўладу, новыя кіраўнікі польскага дзяржаўнага жыцьця выкарыстаюць яе ў поўнай меры перадусім проці тых клясаў і сацыяльных груп насяленьня, якім прыходзіцца несьці на сваіх плячох увесь цяжар істнуючае „сацыяльнае раўнавагі“.

І вось—яшчэ больш характэрна: ў склад ураду п. Пілсудскага, аб абліччы якога так красамоўна гавораць імёны паноў міністраў, увайшоў і прадстаўнік тэй партыі, каторая выступае нібы-то ў абароне інтарэсаў працоўных, ды папраўдзе нягодна прадавала і прадае інтарэсы работнікаў і сялян—капіталістам і абшарнікам. У склад новага ўраду ўвайшоў *сябра і павадыр партыі польскіх сацыялістаў*—ППС, пан Морачэвскі,—той самы, які пры пачатку польскага дзяржаўнага будаўніцтва быў першым польскім прэм'ерам, ды самахоць *аддаў уладу — паном*! Гэты „сацыяліст“ сеў побач з самымі рэакцыйнымі спаміж абшарнікаў Польшчы, — каб разам з імі *панаваць* над працоўнымі!

У заключэньне трэба адзначыць, што кіраўніцтва міністэрствам *асьветы* ўзяў на сябе... былы прэм'ер п. Бартэль, які так груба выявіў свае варожыя адносіны да справы роднае школы „нацыянальных меншасьцяў“ ў часе прыёму дэлегацыі ад культурна-асьветных установаў — беларускіх, жыдоўскіх і літоўскіх...

Падаем гэтыя факты і лічым непатрэбным шырэй тлумачыць іх значэньне: яны гавораць самі за сябе навет найменш узгадаванаму палітычна чытачу...

## НОВАЯ ЗЬМЕНА УРАДУ.

### Гвалт над Канстытуцыяй.

Утварэньне п. Бартлем (чытай: марш. Пілсудскім) „новага габінэту ў тым-жа старым складзе“, ня гледзячы на недаверые Сойму, выражанае двум яго міністрам, — было ня толькі яўным вызавам парляманту з боку „залежнага ад яго і адказнага перад ім ураду“, але і— цяжкім гвалтам над Канстытуцыяй. Арт. 56 і 58 Канстытуцыі ясна кажуць, што і ўрад і паасобныя міністры адказны перад Соймам і падаюцца ў адстаўку, як толькі ім будзе выражана недаверые. Урад груба нарушыў гэтыя асноўныя законы Польскай Дзяржавы.

### Неспадзяваны ўрад з боку Сэнату.

Пакуль соймавыя клюбы, марш. Сойму і прэм'ер радзіліся, як выйсьці з створанага „ўпартым літвіном“ (марш. Пілсудскім) палажэньня а прэм'ер рыхтаваў для Сойму новае „экспозэ“, на пленуме Сэнату была прынята праваленая Соймам прапазіцыя эндэкаў — абрэзаць бюджэт на IV квартал—на 34 мільёны... Цікаўна, што пры галасаваньні вырашылі справу правалу бюджэту, выразіўшы гэтым недаверые ўжо **усяму ўраду**, толькі некалькі галасоў беларускіх і ўкраінскіх сэнатараў... Пэпэсы, вызваленцы, энпэраўцы (польскія „работнікі-нацыяналісты“) і пястоўцы — галасавалі за ўрадавы бюджэт, ратуючы Сойм і Сэнат ад разгону, якім уся ўрадавая прэса адкрыта пагражала.

### За Сэнатам—і Сойм выражае недаверые ўраду Бартля-Пілсудскага.

Гэткім чынам Сэнат неспадзявана аказаўся і больш апазыцыйным, і больш сьмелым ды незалежным ад ураду і ад пасольскіх пэнсіяў, чым Сойм...

Галасаваньне Сэнату стварыла новае палажэньне: Сойм павінен быў яшчэ раз сабрацца, каб зацьвярдзіць або адкінуць сэнацкія пастановы.

30 верасьня на паседжаньне Сойму ўсе клюбы змабілізавалі ўсе сваі сілы. Наступала рашучая хвіліна. Лаянка і цынічныя пагрозы „маральна-бутэрброднай“ прэсы дайшлі да найвышэйшае меры. Ясна было ўсім, што трэба або ратаваць апошні гонар дзяржаўнай установы, або ўжо зусім зрачыся ўсялякага гонару, стаўшыся звычайнымі чыноўнікамі ўраду, ад якога быццам атрымліваюцца пэнсіі. І вось, сьпярша ў камісіі, а пасьля на пленуме Сойму вялізарнай большасьцю —206 проці 94 галасоў—сэнацкія пастановы былі прыняты. За папраўкамі Сэнату, ці **за выражэньнем недаверыя** ўраду, галасавалі — **эндэкі, хадэкі**, абшарнікі Строньскага, пястоўцы, нацыянал-работнікі і ўсе нацыянальныя меншасьці. Проці папраўак, інакш: **за даверые** да ўраду,—галасавалі, ведама-ж, у першую чаргу **пэпэсы**, пасьля **вызваленцы**, сялянскі саюз Домбскага і абедзьве „каталіцкія партыі“—кс. Оконя і „каталікаў-людоўцаў“.

### Уражаньне ад галасаваньня сярод ураду.

На гэтым гістарычным паседжаньні былі ў зборы ўсе міністры, апроч ваеннага. Абвяшчэньне вынікаў галасаваньня выклікам сярод ураду, як кажуць палякі, — констэрнацыю (замяшаньне)... Прэм'ер Бартэль, яшчэ нядаўна такі пэўны сябе, зусім „сеў на мель“... Аб падрыхтаваным ім „экспозэ“ ён зусім забыўся і толькі здалеў папрасіць старшыню Сойму, каб адлажыў канец паседжаньня на 3 гадзіны. Пэўна-ж, каб тымчасам „парадзіцца“, што рабіць, у марш. Пілсудскага... Старшыня згадзіўся. П. прэм'ер паехаў з Сойму—на „нараду“ з прэзыдэнтам і з марш. Пілсудскім. На нарадзе гэтай, як пішуць газэты, адзіны толькі пр. Бартэль стаяў за роспуск Сойму!..

З гэтага ясна зусім, каму патрэбна захаваньне гэтага Сойму—навет з камандуючай у ім правіцай, з эндэцыяй на чале, і хто горш, як сьмерці, баіцца новых выбараў...

### Адстаўка трэцяга ўраду Бартля.

У выніку адкінутай прэзыдэнтам (чытай: марш. Пілсудскім) прапазіцыі прэм. Бартля — распусьціць Сойм, урад Бартля павінен быў сам выйсьці ў адстаўку. Пачаўшаеся праз 3 гадзіны другое паседжаньне Сойму і пачалося якраз заявай старшыні аб тым, што ўрад падаўся ў адстаўку.

### Урад самаго Пілсудскага...

У выніку гэтага дэкрэтам прэзыдэнта Мосьціцкага створаны новы габінэт — з маршалкам Пілсудскім на чале. Сам Пілсудскі выйшаў урэшце з-за кулісаў, з-за сьпіны розных „прафэсароў“, за якіх дагэтуль хаваўся, каб — выступіць ужо адкрыта...

2 кастрычніка прэзыдэнт, назначыўшы Пілсудскага прэм'ерам, зацьвярдзіў урад у гэткім складзе:

Марш. Пілсудскі—прэм'ер і ваенны міністар; п. Бартэль—кіраўнік міністэрства асьветы; генарал Славой-Складкоўскі—мін. унутраных спраў; Аляксандар Мэйштовіч — міністар справядлівасьці; Габр. Чэховіч—мін. фінансаў; Кароль Незабітоўскі—мін. земляробства; інжэнер Квяткоўскі—мін. прамысловасьці і гандлю; інж. Ромоцкі — мін. шляхоў; інж. Морачэвскі — мін. публічных работ; д-р Юркевіч — мін. працы і сацыяльнай апекі; В. Станевіч—мін. зямельных рэформаў. Міністрам заграначных спраў, відаць, астанецца той-жа пан Залескі, які толькі што прыехаў „з Эўропы“ у Варшаву.

Гэткім чынам, у склад „ураду польскай лявіцы“ ўваходзяць, ня лічучы драбнейшых, аж тры вялікія абшарнікі з нашых беларускіх „Крэсаў“— найвялікшыя сацыяльныя ворагі беларускага сялянства: Мэйштовіч, Незабітовскі („асабісты прыяцель“ п. Пілсудскага) і Станевіч.

Можа яшчэ больш цікавая адзнака гэтага „дэмакратычнага“ ўраду марш. Пілсудскага, прызнанага за правадыра польскага „сацыялізму“, — тое, што ў яго склад уваходзяць **два выразныя** і рашучыя **манархісты**. Гэта — **Мэйштовіч і Незабітовскі**...

Абраз быў-бы няпоўны, калі-б ў гэтай невялічкай, але запраўды-ж добра дабранай самім п. Пілсудскім кумпаніі ня было-б актыўнага прадстаўніка дзейнага партыйнага „польскага сацыялізму“. —Дык-жа есьць—навет у асобе самага п. Марачэўскага, аднаго з найбольш уплывовых кіраўнікоў ППС... Гэткім чынам саюз „польскай дэмакратыі“ з польскім абшарніцтвам і польскай буйнай буржуазіяй „прыпячатаны“ — жырам (подпісам) польскіх „сацыялістаў“... Гэткім кампрамісам і завяршылася „барацьба дэмакратычнай дыктатуры“ ў Польшчы з Соймам: усіх злучыў страх перад новымі выбарамі — перад голасам і воляй адсунутага ад улады народу...

# У Польшчы.

## Сойм пайшоў на „адпачынак“!

Пасьля ўтварэньня новага ўраду, які, згодна з канстытуцыйнымі звычаямі, мусіў ураз-жа прадставіцца з Соймам і выясьніць адносіны да сябе парляманту,—п. Прэзыдэнт выдаў дэкрэт аб спыненьні сэсіі Сойму і роспуску паслоў. Гэтак сустрэча новага ўраду з Соймам адкладзена на неазначаны час,—трэба думаць, дзеля таго, каб ня ўзьняўся новы „крызіс“...

## Бандыцкі напад афіцэраў на пасла Зьдзеховскага.

У Варшаве новая сэнсацыя, усхваляваўшая ўсё польскае грамадзянства—як правіцу, так сама і лявіцу. Гэта—напад 10 афіцэраў арміі і жандармэры на б. міністра фінансаў, эндэка-пасла Зьдзеховскага ў яго ўласный кватэры—ў 2 гадз. ўночы.

„Dzien. Wil.“ падае страшэнныя падробнасьці гэтага нападу. Перад нападам увечары ўсё званілі ў тэлефон да пасла, пытаючыся, ці ён дома. У поўнач ён вярнуўся, адказаўшы на тэлефон, што чакае на асобу, якая мае да яго важны партыйны інтарэс. У 2 гадз. да брамы пазванілі 2 афіцэры, дамагаючыся, каб дворнік пусьціў іх у пільнай справе да пасла. Дворнік адмовіўся, але афіцэры прыгразілі застраліць яго праз железную рашотку брамы. Тады па падворак увайшло ўжо аж 10 афіцэраў, якія ўварваліся, выламаўшы дзьверы, ў кватэру пасла, страшэнна зьбілі яго, зьдзекаваліся яшчэ і на самлеўшым у барацьбе з імі безаружным, хаця і сільным фізычна чалавекам. Пасьля гэтага афіцэры выскачылі вон, забараніўшы слузе пасла клікаць паліцыю.

Цікава, што, б'ючы пасла, паны афіцэры крычэлі яму: „Вось табе, маеш за ваенны бюджэт! Ня ўмешывайся не ў свае справы“! Справа ў тым, што пасол Зьдзеховскі найвастрэй з усіх іншых зьбіваў урадавы праект павялічэньня выдаткаў на армію ў бюджэце.

Уся польская прэса абураецца на тое, што 10 азброеных афіцэраў арміі напалі на аднаго — безбароннага, безаружнага. А, зьбіўшы яго, ўцяклі, не пакінуўшы... сваіх візытовых білетаў, каб або зьбіты або ўлада маглі пацягнуць іх да адказнасьці.

Цікаўна і тое, што, калі Зьдзехоўскі пазваніў па тэлефону ў паліцыю, дык ня мог ніяк дабіцца злучэньня, якое было—„папсавана“.

Польская прэса сьпярша пісала, што гэткага агіднага бандытызму немагчыма спадзявацца ад шляхотных афіцэраў польскай арміі, што гэта так сабе—нейкія цывільныя бандыты, апрануўшыяся ў ваенную форму. Але вось сьледзтва ўжо выкрыла, што гэта былі запраўдныя афіцэры, аб чым віцэ-прэм'ер Бартэль ужо паведаміў старшыню Сойму ў адказ на яго рашучы ліст з дамаганьнем сьледзтва ў гэтай агіднай справе. Цікаўна і тое, што пракурорская ўлада, пасьля сцьвярджэньня, што гэта—афіцэры, перадала справу сьледзтва вайсковай жандармэрыі. Але міністар справядлівасьці Маковскі пасьля гэтага даручыў сачыць за сьледзтвам і цывільнаму пракурору. Пакуль што ніводнае прозьвішча афіцэраў ня выкрыта, хаця трэба думаць, што сярод пэўных вайсковых сфэраў усё гэта добра ведама.

Найбольш паважныя пілсудчыкі страшэнна абураюцца на тое, што гэты бандыцкі напад, азначаючы „панаваньне жаўнершчыны“ ў Польшчы, здарыўся—быццам сымвалічна — якраз ў першы дзень прэм'ерства марш. Пілсудскага.

## Дарагоўля ўсьцяж расьце.

Паводле афіцыяльнае статыстыкі, у верасьні—раўнуючы з жніўнем — кошты пражыцьця ў Варшаве ўзрасьлі на 3,39%. Найбольш узрасьлі цэны спажыўных прадуктаў: на 6,72%; пасьля — апал: на 4,51%.

# Польшча і Літва.

## Літоўска-расейскі дагавор і яго вынікі.

Уся эўрапэйская прэса горача займаецца „новым“ расейска-літоўскім трактатам.

Нямецкая прэса сцьвярджае, што праз узнаўленьне цяпер дагавору 1920 г. быццам узнаўляецца ў 1926 годзе—год 1920, калі, як і цяпер, ваенным дыктатарам Польшчы быў марш. Пілсудскі... Гэты Трактат цяпер выразна паліць масты паміж Польшчай і ССРР, — масты, якія праз увесь час маніўся наладзіць Чычэрын. Як ведама, Трактат беспасярэдна выкліканы выразным адмоўным адказам мін. Залескага (чытай: Пілсудскага) на прапазіцыі Чычэрына перад сэсіяй Лігі Народаў... Гэты Трактат, прабіваючы вялізарную дзіру ў „муры“ Балтыцкіх дзяржаваў, акружаючых з Заходу ССРР, зьяўляецца выразным паражэньнем як польскай, так і англійскай палітыкі, якія хацелі-б стварыць блёк гэтых дзяржаў—процi ССРР.

Радавая прэса сцьвярджае мірны характар Трактату, ды піша, што з гэткімі-ж прапазіцыямі радавы ўрад зьвяртаўся да ўсіх балтыцкіх дзяржаў, ды яны самі сабе пашкодзілі, адмовіўшыся зрабіць тое, што Літва. ССРР акружаны скіраванымі проці яго чыста ваеннымі трактатамі—польска-румынскім, францускa-польскім, францускa-румынскім, да якіх зусім непадобны трактат літоўска-расейскі.

## Алярмуючыя весткі.

Адна з бэрлінскіх газэт паўтарыла алярмуючую вестку амэрыканскага агенцтва аб тым, быццам „Радавы ўрад аканчальна пакінуў думку аб магчымасьці паразуменьня з Польшчай Пілсудскага“...

Рыжская прэса атрымала весткі з Коўны, быццам літоўска-расейскі дагавор, апрача апублікаваных пунктаў, гарантуючых незалежнасьць Літвы і ўзаемны нэйтралітэт у выпадку нападу на саюзьнікаў, мае яшчэ і тайныя пункты, якія гарантуюць кожнай старане дапамогу з боку саюзьніка—у выпадку вайны з Польшчай...

## Пагроза ўсходня-эўрапэйскай вайны—у руках Польшчы.

Літоўская газэта „Рытас“ піша, быццам у часе падпісаньня літоўска-расейскага Трактату адзін з важных радавых дыпляматаў заявіў, што —як толькі выбухне аружны канфлікт паміж Польшчай і Літвой, дык ССРР у працягу 24 гадзінаў займе Талін (Рэвэль) і Рыгу (сталіцы Эстоніі і Латвіі),—каб забясьпечыць сябе ад пагрозы ваеннага ўмяшацельства буржуазнай Эўропы (чытай: англійскага флёту). Газэта баіцца „паразуменьня ССРР з Польшчай—коштам Літвы“, якую быццам тады радавы ўрад аддасьць Польшчы, каб прыхіліць да сябе апошнюю... Досьць фантастычныя страхі.

Польскія газэты пішуць, што ў Варшаву ўрад паклікаў наймудрэйшых польскіх юрыстаў, якія заняліся „бадaньнем“ Трактату, каб выразна сцьвярдзіць яго супярэчнасьць з Рыжскім Трактатам і Статутам Лігі Народаў, у якую ўваходзіць Літва. Тады польская дыпляматыя заявіць пратэст у Маскве і ў Лізе Народаў.

## За Клайпэду—Гданск?!

У сувязі з чуткамі аб плянах Польшчы, скіраваных проці Літвы, зварачае на сябе асаблівую ўвагу надрукаваная ў „Gaz. Warsz. Por.“ пагалоска, быццам Францыя — пад націскам Амэрыкі — згаджаецца на аддачу Гданска—Нямеччыне. Гэтак за зрачэньне Польшчай дадзеных ей Вэрсальскім трактатам правоў на Гданск і знамяніты „калідор“ да мора—праз Нямеччыну, як відаць, „вялікія“ дзяржавы гатовы дазволіць, каб Польшча забрала Клайпэду — ведама, разам з Літвой, праз якую йдзе ў Клайпэду дарога...

# Заграніцай.

## Зачыненьне сэсіі Лігі Народаў

Канец сэсіі агульнага збору Лігі быў ня вельмі пагодны. Англійская дэлегацыя вельмі абурылася на старшыню Нінчыча за тое, што той даў слова кітайскаму дэлегату, які нагаварыў шмат чаго аб англійскіх гвалтах у Кітаі. Пасьля дэлегат Скандынавіі Нансэн падняў справу справаздачы з мандатаў ад Лігі на ўпраўленьне рознымі „паўнезалежнымі“ краямі, як Эгіпет, Сірыя і г. д., якія папросту захапілі Англія і Францыя, гвалцячы аружна насяленьне—ад імя Лігі Народаў. Нансэн патрэбаваў, каб побач з справаздачай маючых мандаты дзяржаў дапусьціць у Лігу прадстаўнікоў тых краёў, якія аддадзены Лігай фактычна на гвалт і зьдзек „вялікіх“. Гэта выклікала страшэннае абурэньне з боку дэлегатаў найвялікшых з гэтых „вялікіх“ — Англіі і Францыі. Справу „адлажылі“ на наступную сэсію, — бо яна „яшчэ ня высьветлена, як належа“.

## Спатканьне Чэмбэрлена з Мусоліні.

Увагу ўсяго сьвету зварачае спатканьне Чэмбэрлена з Мусоліні—у італьянскім месьце Ліворно. Гутарка абодвух дзяржаўнікаў цягнулася 3 гадз. Газэты даведаліся, што гутарылі яны—аб тым, як Англія разам з Італіяй аднясьліся да паўстаўшага... паразуменьня Францыі з Нямеччынай! Ведама, што да гэтага паразуменьня праз увесь час нахіляў як Францыю, таксама і Нямеччыну сам Чэмбэрлен. Але, відаць, гэтае паразуменьне зайшло залішне далёка, а галоўнае — яно ня толькі выключыла Англію, як пасрэдніка між Францыяй і Нямеччынай, але пайшло яшчэ далей, бо зьвярнулася проці панаваньня Англіі на кантынэньце Эўропы ды дзеець у напрамку вызваленьня Францыі і Нямеччыны з-пад ярма англійска-амэрыканскага капіталу.

Пасьля ў гутарцы былі закрануты справы Танжэру (гішпанскіх дамаганьняў, якія падтрымлівае Італія проці Англіі), Аўстрыі, далучэньню якой да Нямеччыны так працівіцца Італія. Гаварылі аб Сяродземным моры, якое Італія хоча „адняць ад Францыі, каб перарэзаць шлях Францыі да яе калёніяў у Афрыцы. Гутарылі, зразумела-ж, і аб Радавай Расеі, якая найбольш у сьвеце страшыць Чэмбэрлена, дык ясна, што ён шукаў саюзьніка проці ССРР і ў асобе Мусоліні.

# Справаздача з Лідзкага Павятовага Зьезду Бел. Сял.-Раб. Грамады 26.-IX. 1926 г.

## Адчыненьне зьезду.

Зьезд адчыняе ў 11 гадз. пасол Рак-Міхайлоўскі. У прэзыдыум апрача яго, як старшыні, выбіраюцца паслы Валошын і Мятла і сябры зьезду Чайкоўскі Ігнат, Шымкевіч Кастусь, Салыга Вінцук і Лакцэвіч Рыгор.

Старшыня абвяшчае парадак дня зьезду.

1) Справаздача паслоў Грамады, 2) Справаздача аб працы на мяйсцох, 3) Упарадкаваньне надалей арганізацыйнай працы Грамады ў Лідзкім павеце, 4) Выбары Павятовага Камітэту і 5) Бягучыя справы.

Ад імя Цэнт. Кам. Грамады вітае зьезд пасол Мятла.

## Перашкоды.

Праз увесь час трываньня зьезду сабраныя на вуліцы асаднікі і розныя падазроныя фігуры робяць спробы прарвацца ў салю. Іх ня пускаюць з увагі на іх яўна варожыя адносіны да зьезду і імкненьне сарваць зьезд, — згодна з заклікам Обста ў „Dz Wil.“. Характэрна, што староста даў дазвол на „публічны сход“, хаця арганізатары аб гэта не прасілі. На заяву, што гэта ня сход, а зьезд, і што будуць дапускацца толькі сябры „Грамады“, — стараста адказаў, што арганізатары маюць права і на публічны сход пускаць, каго захочуць. Тымчасам у часе зьезду, калі сабраныя на вуліцы буяны ламаліся ў салю, — прадстаўнік старосты і камісар паліцыі дамагаюцца двойчы, каб гэная „публіка“ была пушчана на хоры. Старшыня зьезду рашуча адмаўляе ім у гэтым, ды гэтак спроба сарваць зьезд гвалтам не ўдаецца.

## Прамовы паслоў.

Прамова **Рак-Міхайлоўскага**. Выбары ў Сойм 1922 г., характэрыстыка партый у іх працы на Соймавым грунцьце; Белар. Пас. Клюб; утварэньне Грамады; праца Грамады, яе значэньне; справа беларускае школы. „Няхай жыве беларуская школа!“ (Воплескі).

**Валошын**. Справы па інтэрпэляцыях і наглых унёсках: адміністрацыя, паліцыя, аб турмах і вязьнях, Міністэрства Справядлівасьці, Мініст. Унут. Спраў, справы вайсковыя. У сваей арганізацыі — Грамада—сіла. (Воплескі).

Пасол **Мятла**. Справа зямельнае рэформы і справа асадніцтва, падаткі, адбудова, штодзенныя патрэбы селяніна і работніка, самаўрады, за скасаваньне кары сьмерці. (Воплескі).

## Справаздача аб працы Грамады на мяйсцох.

З дакладамі выступаюць: ад Лідзкага Гуртка Грамады **Чайкоўскі** Ігнат, ад Беліцкае гм., **Зубко** Антон, ад Лебедзкае гм., **Салыга** Вінцук, ад Ганчарскае гм., **Дзікевіч** Вінцук, ад Ліпнішскае гм., **Шымкевіч** Кастусь, ад Лідзкае гм., **Мальцаў** Міхал, ад Селецкага Гуртка **Шэшко**, ад Суботніцкае гм., **Сьветавастокаў** Кастусь. Кожны з дакладчыкаў характэрызаваў — як праводзіцца праца і якія ставяцца ўладаю перашкоды.

**Рак Міхайлоўскі** высьвятляў цяжкія пункты арганізацыйнай працы і інфармаваў аб праўных падставах партыйнае працы.

## Упарадкаваньне працы Грамады ў Лідзкім павеце надалей.

**Мятла**. Інструктаваньне аб працы надалей, гмінныя камітэты, функцыі павятовага камітэту.

**Валошын**. Заклік да ўпартае сыстэматычнае працы.

## Выбары камітэту.

У склад Павятовага Лідзкага Камітэту выбраны: Чайкоўскі Ігнат, Салыга Вінцук і Шымкевіч Кастусь. Выбраны аднагалосна. Ад імя Павятовага Камітэту дзякуе зьезду за даверые сябра Камітэту Сталыга Вінцук.

## Заключэньне і рэзалюцыя.

Канцавую прамову меў пасол Валошын. (Гучныя воплескі).

На рашучы пратэст з боку прысутнага ўвесь час на зьезьдзе прадстаўніка Староства—начальніка аддзелу „biezpieczeństwa“ Лычкоўскага адмаўляецца паслу Баліну выступіць з прамовай. Балін меўся толькі прывітаць зьезд.

У канцы зьезду аднагалосна прыймаецца гэткая рэзалюцыя:

„Лідзкі Павятовы Зьезд Белар. Сял.-Раб. Грамады, сабраны ў Лідзе 26./IX. 1926 г. ў лічбе 148 асоб, пастанавіў:

1) Справаздачу паслоў Рак-Міхайлоўскага, Валошына і Мятлы аб працы Соймавага Клюбу Грамады і Цэнтральнага Камітэту зацьвердзіць, лічучы, што гэтая работа, абапёртая на цесным саюзе сялян і работнікаў, правільная і вядзецца на карысьць нашага працоўнага народу згодна з яго сацыяльныні і нацыянальнымі інтарэсамі.

2) Прызнаючы, што б. ўрад „маральнае направы“ зьяўляўся выразна ўрадам абшарнікаў і капіталістаў, што ён праводзіў, як і папярэднія буржуазныя ўрады Польшчы, палітыку дэнацыяналізацыі, — зьезд пераканаaны, што толькі запраўдны Сялян.-Работ. Урад шчыра захоча і зможа паправіць долю працоўнага народу ды прыгнечаным нацыянальнасьцям даць поўную свабоду самаазначэньня.

3) Зьезд лічыць правільнай лінію Соймавага Клюбу Грамады і ўсяе Грамады ў яе барацьбе з усімі згодніцкімі партыямі, як польскімі так і беларускімі.

Прытым зьезд пастанаўляе, што Грамада і далей будзе весьці стойка барацьбу:

4) За зямлю для сялян бяз выкупу і за скасаваньне асадніцтва.

Англійскія газэты ўжо трубяць аб новай сусьветнай сэнсацыі: аб фармальным саюзе Англіі з Італіяй—як аб процівазе зблiжэньня Францыі з Нямеччынай.

### Узнаўленьне перагавораў радавай дыпляматыі з Францыяй і Англіяй.

Ня гледзячы на весткі газэт аб тым, што быццам адносіны францускага ўраду да СССР зусім папсаваліся, старшыня францускай дэлегацыі ў справе перагавораў з радавым урадам, ведамы сэнатар дэ-Монзі, выехаў у Маскву, каб там, разам з францускім паслом Эрбэтам,—узнавіць перагаворы аб заключэньні француска-расейскага дагавору.

Таксама, ня гледзячы на вельмі папсаваўшыяся адносіны СССР з Англіяй, Радавы Урад выслаў ізноў свайго прадстаўніка Красіна ў Лёндан.

### Весткі з Кітаю.

Газэты пішуць, быццам у англійска-кітайскіх адносінах зрабілася пэўнае „залагоджаньне". Быццам кантонскі ўрад даў загад прыпыніць байкот англійскіх тавараў і тэрор проці англійцаў. З свайго боку, англійскія ўлады загадалі адыход ваенных караблёў з ракі Янцэ-Кіянга.

Адначасна йдуць весткі, што кантонскі ўрад запрапанаваў Чанг-Тсо-Ліну зрабіць мір.

### Забастоўка ў Гамбурскім порце.

У Гамбургу, праз які йдзе блізу ўвесь экспорт каменнага вугальля ў Англію (ў тым ліку—і з Польшчы!), забаставалі партовыя работнікі. Гэтак забастоўшчыкі хочуць дапамагчы сваім таварышам-вуглякопам у Англіі, якія ня спыняюць сваей забастоўкі з прычыны замаху капіталістаў на рабочы дзень.

У Гамбурскім порце спынены ўсялякі рух. Вугальля ня грузяць на караблі. Параходы, якія прыходзяць за вугальлём, варочаюцца ні з чым.

Забастоўкай кіруюць камуністы.

## З жыцьця „Грамады".

### ШТО РАБІЦЬ ДАЛЕЙ?

Да чэрвеня месяца бягучага году на зямельцы Заходняе Беларусі жыў Беларусі народ, але ня было беларускае **народнае** арганізацыі. На гэнай зямельцы ня было **мясцовае** моцнае і вялікае арганізацыі, якой-бы працоўныя вёскі і места спачувалі. Праўда, йшлі спрэчкі ў газэтах, праз газэту працоўныя пазнавалі, дзе праўда і дзе мана, праз газэту была дана магчымасьць працоўным ведаць аб благіх і добрых імкненьнях іншых палітычных напрамкаў: як здрадніцкага Сялянскага Саюзу і прадажнага дэфэнзыўнага „Беларускага Слова". Каму яны не вядомы? Але вось разнёсься голас: „За кім ісьці? а пасьля кліч: „Працоўныя вёсак і мест, запісвайцеся ў Грамаду!"

Ясна, што пануючай Уладзе не падабаецца такі масавы прыхіл працоўных мас да роднае Грамады. Пачалі перашкаджаць, пачалі страшыць, рабіць вобыскі і навет арыштоўваць. Дружныя пратэсты з боку Цэнтральнага Камітэту Грамады аднак-жа змусілі ўладу на мясцох лічыцца з намі, і арыштаваных звальнялі, зьвяртаючы ім усе рэчы, як: партыйныя білеты, пячаткі, сьпісы і дэклярацыі Гурткоў, адобраныя пры вобысках (выпадак у Вялейцы з Антановічам).

Ня гледзячы на тэрор, Грамада расьце і мацнее. Але ці, запісаўшыся ў Грамаду, ужо ўсё зроблена?—Не.

5) За 8-мі гадзінны рабочы дзень і за ўтрыманьне ўсіх здабыч работніцкае клясы.

6) За ўсе штодзенныя патрэбы селяніна і работніка.

7) За тое, каб падаткі былі пераложаны з плячоў працоўных на плечы маючых клясаў, каб былі ўзысканы 740 мільёнаў злотых маёнтковага падатку, не заплачанага дагэтуль абшарнікамі і фабрыкантамі; за тое, каб быў уведзены падатак ад гаспадаркі адзін на ўвесь год, з разлажэньнем на раты, а з беззямельных і малазямельных каб былі зьняты ўсякія падаткі.

8) За школу на скарбовы кошт для кожнае нацыянальнасьці ў яе роднай мове, беларусам — беларускую.

9) За зьменшаньне коштаў на ўтрыманьне войска, за скарочаньне часу службы.

10) За тое, каб паменшыць лічбу ўрадоўцаў і каб паменшыць паліцыю ды строга пакараць вінных чыноўнікаў, шпікоў, паліцыянтаў і несправядлівых судзьдзяў.

11. За тое, каб самаўрады гмінныя і павятовыя не назначаліся староствамі, як дагэтуль, а выбіраліся-б народам.

12) Каб была дадзена народу помач на адбудову.

13) За скасаваньне кары сьмерці, за скасаваньне палявых (даразных) судоў, за вызваленьне з турмаў усіх палітычных вязьняў.

Рэзалюцыя прыймаецца аднагалосна. Зьезд заканчываецца а $4^1/_2$ гадзіне дружным сьпевам Беларускай Марсэльезы. Чутны воклікі: „Няхай жыве Грамада"! „Няхай жыве Сял.-Раб. Урад"! „Няхай жыве саюз сялян і работнікаў"! „Няхай жыве беларускі народ"! „Няхай жывуць паслы Грамады"!..

А што-ж трэба далей рабіць?

**Трэба арганізацыйна**, гэта значыць: усім адразу,—**дабівацца роднае беларускае школы.** Кожны Гурток на вёсцы і ў месьце павінен дабіцца роднае школы. Кожны сябра Грамады і ня сябра павінен злажыць дэклярацыю на родную школу. Калі войт адмовіцца сцьвярдзіць подпіс, шліце дэклярацыі бяз подпісаў у Галоўную Управу Таварыства Беларускае Школы (Вільня, вул. Віленская 12—6).

Апрача школ урадовых, зараз трэ распачаць змаганьне за **школу прыватную.** Кожны Гурток павінен напісаць пратакол на прыватную школу ў яго вёсцы, паказаць кандыдата на вучыцеля, паказаць будынак для школы і чым могуць памагчы ўтрымліваць прыватную школу.

За школамі йдуць **самаўрады**. Гурткі павінны імкнуцца, каб за солтыса, войта, раднага ў гміну, або ў Пявятовы соймік, быў абраны чалавек справядлівы, ня п'яніца, ня злодзей, а верны сын вёскі.

Гурткі павінны залажыць **хаты-чытальні**, куды выпісаць газэт, кніжак і брашур легальных і там разам чытаць і разважаць аб усіх справах.

Павінны дапамагчы залажыць **аддзелы Таварыстваў Беларускае Школы,** а пры аддзелах—**кружкі тэатральны, пісьменства, мастацтва і цьвярозасьці.** Камітэты павінны асьведаміць сваіх сяброў, што гарэлка-страшэнны вораг працоўных і што піць яе ня трэба.

Для падтрыманьня свае газэты матэр'яльна—Камітэты Гурткоў павінны **выпісываць газэту** за грошы па некалькі экзэмпляраў і прадаваць гэную газэту суседзям. Зараз-жа складаць сяброўскія складкі і за тую частку, што застаецца на карысьць Гуртка, **выпісаць з кнігарні кніжак,** якія найбольш Гуртку падабаюцца.

Кожны Сябра Грамады абавязкава павінен **прачытаць сваю газэту** і па магчымасьці, хто толькі можа, **пісаць** у газэту аб розных выпадках, у яго ваколіцы.

Трэба імкнуцца да самаразьвіцьця, да палепшаньня долі і змагацца з крыўдай, — трэба прыслухоўвацца да голасу Цэнтру, да голасу сваіх паслоў. Трэба змагацца. **Праз змаганьне палепшым свой быт** і станем на ўласныя ногі. Да працы, дарагія сябры!

**Чупрыновіч.**

### Да гурткоў Белар. Сял.-Раб. Грамады.

Прыймаючы пад увагу, што некаторыя гурткі Бел. Сял.-Раб. Грамады на сваіх засяданьнях праводзяць выбары ў прэзыдыумы гурткоў Т-ва Беларускай Школы, Цэнтральны Сэкрэт. Грамады выясьняе:

1) Бел. Сял.-Раб. Грамада зьяўляецца арганізацыяй палітычнай, Т-ва-ж беларускай школы — арганізацыя выключна культурная, якая істнуе самастойна на падставе залегалізаванага ў міністэрстве статуту.

2) Пры арганізацыі гурткоў Т-ва Бел. Школы трэба няўхільна кіравацца выданаю Т-вам інструкцыяй, бо ў праціўным разе ўлада будзе ставіць ўсялякія перашкоды, не легалізуючы тых гурткоў Т-ва, якія ня выпаўнілі ўсіх вымаганых фармальнасьцяў.

Паведамляючы аб гэтым, Цэнтр. Сэкрэт. Белар. Сялян.-Работ. Грамады заклікае ўсіх сваіх сяброў, якія хочуць быць сябрамі Т-ва беларускай школы, няўхільна кіравацца адпаведнаю інструкцыяй Т-ва, выясьняючы гэта і памагаючы ня толькі сваім, але таксама й тым, хто, нябудучы сябрам Грамады, хоча ўступіць у культурную арганізацыю, якой зьяўляецца Т-ва беларускай школы.

**Цэнт. Сэкр. Грамады.**

### Самапомач.

У Цэнтральны Сэкрэтарыят паступілі ахвяры на пагарэльцаў празароцкае гміны ад: В.-Жухавіцкага Гуртка—13,35 М.-Жухавіцкага Гуртка — 12,16 Каспэровіча Язэпа, Вільня—0,50 Невядомай асобы—0,59.

Разам 26 зл. 60 гр. Грошы перасылаюцца ў Празарокі на рукі пагарэльцаў. Цэнт. Сэкр. выражае шчырую падзяку.

## ХРОНІКА.

**Выніні выбараў у Касу Хворых у Вільні, перамога беларусаў.** На выбарах у Касу Хворых, якія адбыліся ў Вільні ў мінулую нядзелю, 3 кастрычніка, сьпісак № 6 аб'яднаных работніцкіх арганізацяў—„Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады" і лявіцы прафэсіянальных саюзаў — атрымаў 660 галасоў і гэтак дастаў 4 месцы ў Радзе Касы Хворых. Два месцы займаюць работнікі—беларусы.

За другія сьпіскі забясьпечаных галасы разлажыліся гэтак: саюз дактароў-палякоў атрымаў 206 галасоў (1 мандат), ППС—649 (4 мандаты), незалежныя сацыялісты—1111 (7 манд.), Бунд—1272 (8 манд.), польскі (буржуазны) выбарны камітэт—2239 (16 манд.). Гэтак левыя групы маюць разам 23 мандаты, правыя—17.

Сярод левых выяўляюцца характэрныя перамены. Дагэтуль у Радзе Касы Хворых мелі „манаполію" на прадстаўніцтва работнікаў ППС і Бунд. Цяпер склад работніцкага клясавага прадстаўніцтва шмат палявеў — коштам перадусім пэпээсаў, якія ўсё больш губляюць уплывы сярод работнікаў з прычыны сваей здрадніцкай палітыкі і выслугоўваньня буржуазіі. ППС атрымала **найменш галасоў**, раўнуючы да другіх партыяў!

„Хрысьціянскія" прафсаюзы трэбуюць уневажненьня выбараў на тэй падставе, што яны.. блага былі прыгатаваны!

Мы горача вітаем першую перамогу беларускае арганізацыі „Грамады": гэтая перамога найлепш сьведчыць аб росьце сьвядомасьці сярод нашых работнікаў у месьце Вільні. Гэта дадасьць беларусам ахвоты і веры ў свае сілы і на выбарах у мястовую раду, дзе беларусы мусяць здабыць для сябе належнае месца.

**Ахвяры на палітычных вязьняў.** Камітэт помачы палітычным вязьням выказвае сваю падзяку за ахвяры на палітычных вязьняў: жыхарам вёскі Какошчыцы — за 23 зл. і жыхарам в. Прыперна—за 4 зл. 10 гр.

**Падзяка.** Урад Бел. Навук. Т-ва гэтым высказывае сваю падзяку грамадзянам, якія прыслалі ахвяры ў Музэй ім. Ів. Луцкевіча: 1) А. Баброўцы з в. Іўкі, Красьненск. гм., Вялейск. пав.,—за 25 манэт; 2) сьв. Ю. Шчаснаму, Сабакінск. гм. Лідзк. пав.,—за 7 манэт; 3) белар. матурыстам у Глыбокім—за знойдзеную імі срэбную манэту; 4) Рапапорту ў Вільні—за віленскі банкнот 1920 г.; 5) Уладзімеру Кабушцы, вучню VI кл. Віл. Бел. Гімназіі,—за 12 банкнотаў з часоў вайны; 6) мастаку Дімінчу ў Пінску — за малюнак; 7) грамадзянцы Дамініцы Рапацкай у в. Мал. Марочна, у Піншчыне—за старасьвецкую сухазлотную (парчавую) Шнуроўку „Кітліцу".

**Час службы у войску.** „Słowo" падае гэткія інфармацыі ў гэтай справе:

Рэкруты сёлетняга набору будуць уключаны ў армію ў двух тэрмінах: часьць — паміж 12 і 14 кастрычніка с. г., рэшта—апрача панадконтынгентных—паміж 17 і 19 марца 1927 году.

Час службы ў войску устаноўлены гэтакі: 1) у пяхоце, жандармэрыі, абозах, атрадах артылерыйскае службы, у інтэндантцве і службе санітарнай—18 месяцаў без перарываў; 2) у артылерыі (апрача коннае артылерыі)—18 месяцаў з тым, што цераз 12 месяцаў часьць жаўнераў атрымае водпуск на 6 месяцаў, пасьля чаго мусіць вярнуцца даслужыць рэшту—йшчэ 6 месяцаў; 3) у кавалерыі і коннай артылерыі — 25 месяцаў; 4) у атрадах танкаў, лятуноў, баонах сапэраў, чыгункавых, сувязі і ваеннага флёту — 24 месяцы; 5) у корпусе аховы пагранічча—25 месяцаў.

**Звальняньне запасных з прычыны хваробы.** Звальняньне пакліканых на вучэньне запасных з прычыны хваробы іх будзе адбывацца на такой-жа падставе, як і звальняньне рэкрутаў,—знача, на падставе пастановы вайскова-лекарскае бальнічнае камісіі, якая мусіць быць падпісана трыма дактарамі. За найбольш паважную прычыну лічацца тыя хваробы, якія былі набыты ў сувязі з адбываньнем вайсковае службы.

**Пробная трывога ў віленскім гарнізоне.** У панядзелак, 4-га кастрычніка, насяленьне места Вільні было ўстрывожана нейкім рухам сярод войска. Пачалі гаварыць, што гэта войска йдзе на літоўскую граніцу і г. п. Аднак, як выясьняюць польскія газэты, запраўды гэта была толькі пробная трывога гарнізону, якая паказала дужа добрую падрыхтоўку і да запраўднага выступленьня: ў працягу 15 мінут пасьля алярму (два гарматнія стрэлы) 95% афіцэраў, прафэсіянальных падафіцэраў і жаўнераў зьявіліся ў свае вайсковыя часьці.

**Афіцыяльны курс грошы на 4-га кастрычніка.** Даляр—8 зл. 95 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

5. X. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,98. Зал. руб. 4,85. Чырвонец 45,50

## З жыцьця Т-ва Беларускае Школы.

### I. Гурткі Т-ва Беларускае Школы.

Ужо залегалізаваны:

1. У м-ку Любчы Наваградзкага павету.
2. У м-ку Скідлі Горадзенскага павету.
3. У м-ку Міры Стаўпецкага павету.

Знаходзяцца ў стадыі легалізацыі:

1. У горадзе Горадні.
2. У в. Каенёўцы Гарадзенскага павету.
3. У в. Вялікія Жухавічы Стаўпецкага пав.
4. У в. Падзагор'е Наваградзкага павету.
5. У гор. Вялейцы—Вялейскага павету.
6. У в. Княгініна—Вялейскага павету.
7. У в. Купяцічы—Пінскага павету.
8. У м-ку Гарадку—Беластоцкага павету.
9. У в. Вялікая-Кракотка Слонімскага пав.

### II. Прыватныя Школы.

Галоўнаю Управаю Т-ва Беларускае Школы паданы заявы аб выдачы канцэсіі на прыватныя беларускія школы:

1. Дзісьненскаму Школьнаму Інспэктару на школы ў в. Грыгароўшчына і Сасноўцы.
2. Наваградзкаму Школьнаму Інспэктару на школы ў вёсках: Палужа, Зарэча.
3. Слонімскаму Шк. Інсп. на школу ў в. Юхнавічы.
4. Вялейскаму Школьнаму Інсп. на школу ў в. Асіповічы.
5. Стаўпецкаму Школьнаму Інсп. на школу ў в. Вялікая-Слабода.

### III. Народныя Дамы і бібліотэкі чытальні.

1. Мірскі Гурток Т-ва Бел. Шк., Стаўпецкага павету школы пастанавіў залажыць у м-ку Міры Народны Дом пад назовам „Беларуская Хатка" і адкрыць у ім бібліотэку-чытальню.
2. Скідэльскі Гурток Т-ва Бел. Школы пастанавіў залажыць Народны Дом і ў ім адчыніць бібліотэку-чытальню.
3. Любчанскі Гурток Т-ва Бел. Школы адчыніў бібліотэку-чытальню ў м-ку Любчы.

## Маўклівае прызнаньне.

Газэта „Kurjer Wileński“, лямантуючы з прычыны магутнага росту арганізацыі „Грамады“, надрукавала ў № 213 з 15-га верасьня стацьцю, у якой тлумача адно запраўды-ж цікаўнае зьявішча ў жыцьці нашых палітычных партыяў: „**радыкалізм**“, які выяўляюць—прынамся на славах!—„**Сялянскі Саюз**“ і „**Хрысьціянскія Дэмакраты**“, мае быць **няшчырым, выкліканым толькі імкненьнем канкураваць з „Грамадой“!**

Вось дасло́ўна рэвэляцыя (адкрыцьце) „Kur. Wil.“.

„У сьвятле гэтага зьявішча (нязвычайна шыбкага росту „Грамады“ і пераходу да яе ўсіх жывых беларускіх элемэнтаў!—*Рэд.*) робяцца зразумелымі некаторыя лішне ўжо „па-грамадаўску“ радыкальныя пункты ў партыйных праграмах успомненых групаў („Сял. Саюзу“ і „хадэкаў“), бо йдзе аб тое, што — дзеля разыходзіўшаеся дэмагогіі „Грамады“ — развaжнейшыя галасы не знайшлі-бы належнага послуху сярод здэмаралізаваных сялянскіх масаў, і гэныя групы, каб ня ўтраціць да канца сваіх уплываў на вёсцы, **прымушаны выступаць з лёзунгамі шмат больш радыкальнымі, чым тыя, якія выяўлялі бы іх запраўдныя імкненьні**“.

Так „дэлікатна“ абвініў у крывадушнасьці паноў з „Саюзу“ і „Хадэцыі“ чалавек, які, як нам ведама, стаіць вельмі блізка да рэдакцыяў „Сялянскае Нівы“ і „Biełar. Krynicy“.

Ня гледзячы на тое, што асоба аўтара давала падставу верыць, што сваю заяву ён ня з пальца выссаў, а зрабіў, апіраючыся на тым, што **чуў ад павадыроў названых партыяў**, — мы ждалі цэлыя тры тыдні запярэчаньня з боку „Сял. Нівы“ і „Biełar. Krynicy“, але ніякага запярэчаньня ня прыждалі. Праўда, „Сял. Ніва“ ў № 30 з 23-га верасьня абгаварывае стацьцю „Kur. Wil.“ і абураецца на закід „здэмаралізаванасьці“, кінуты **беларускаму сялянству**“,—але на такі-ж закід, зроблены **павадыром** „Салянскага Саюзу“ і „Хрысьціянскае Дэмакратыі“, не адказвае нічога, проста прымаючы яго да ведама...

З гэтага маем цяпер права зрабаць вывад, што ані „саюзьнікі“, ані „хадэкі“ не пасьмелі пярэчыць словам „Kur. Wil.“, бо **словы гэтыя — зусім згодныя з праўдаю!**

## Карэспандэнцыі.

### На пасольскім мітынгу.

(М. Браслаў).

Паміж двух вазёр раскінуўся наш гарадок. Ціхі і манатонны, ён ажывае ў час гадавых кірмашоў. Вось і сягоньня, 8 верасьня ён прыняў сьвяточны воблік. Дзеля таго, што дзень цёплы і ясны, народу зьехалася многа. Людцы снуюць узад і ўперад.

Прыслухіваюся да гутарак. Гамоняць аб прыезьдзе пасло́ў. Кажуць: многа будзе з польскіх партый, але прыедзе і наш — беларус. Зацікавіўся я, бо ў нас гэта рэдкі госьць.

Вось на ганку аднаго дому перад касьцёлам падымаецца нейкі ягомасьць і аб'яўляе, што мітынг адбудзецца на рынку, бо, бачыце, пану старосьце не падабаецца, калі будуць гаварыць недалёка ад касьцёла. Пасол Шапель з Н. Р. Х. (пасьля даведаўся) ідзе па вуліцы і досіць спрытна раскідае карталюшкі. Таўпа кідаецца за брашуркамі і адначасна пасуваецца за паслом на рынак.

Мітынг. Гавора пасол Шапель. Дасталося ад яго ўсім, але найболей „Вызваленьню“. І варта! Досіць гэтым здраднікам і баламутам ашуківаць людзей. Быў нейкі крывароты паніч (казалі іх інструктар), які хацеў абараняць „Вызваленьне“, але, атрымаўшы ад сялян некулькі тумакоў у бок, замаўчаў.

Каля двух гадзін гаварыў Шапель. Даведываюся, што ад палякоў больш ніхто ня будзе гаварыць, бо, як казалі, што хоць і атрымалі дазвол Адамовіч і Галка на мітынг, але пабаяліся прыехаць. І малайцы. Хоць прынамся прызнаюць, што дастойны сялянскіх тумакоў. Дай-жа Божа, каб нашы вочы вас, паночкі,—больш ня бачылі ў Браслаўлі.

Акромя пасла Шапеля прыехаў пасол Мятла з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Чакаю яго прамовы. Гляджу, аб нечым таргуецца з прадстаўнікам старосты. Аж, як пасьля даведаўся, усе паслы-палякі атрымалі дазвол ад ваяводы на мітынг, а толькі нашым ня далі. Ня гледзячы на гэта, пасол Мятла становіцца на воз і вітае грамадзян ад імя Бел. Сял.-Работн. Грамады.

Гавора аб патрэбе заварушыцца і ўзяцца дружна за працу. На жаль, далей паліцыя ня дала гаварыць і стала разганяць людзей, якія з такой радасьцю хацелі паслухаць свайго прадстаўніка. Было сказана некалькі слоў, якія ўрэзаліся ў памяці кожнага беларуса. Кліч да аб'яднаньня працоўных у адну сям'ю знайшоў жывы водклік у нашых сэрцах.

Няхай-жа жыве працоўны люд, няхай жыве „Грамада“, якая кліча нас пад свой штандар і нясе вызваленьне з нядолі!

**Кастусь Небарака.**

### Дзеля каго стараецца.

(М. Ракаў, Маладэчанскага пав.).

Найбліжэйшая дарога з Ракава да станцыі Аляхновічы праходзіць праз вёску Бузыны. Вось і рашылі сяляне акалічных вёсак правадзіць шасу гэтуды,—падрыхтавалі работу, — навазілі каменьняў і г. д.—А як перайшла наша гміна да Маладэчанскага пав., то прыехаў маладэчанскі пан староста і загадаў гміннай радзе праводзіць шасу на Кучкуны. Сяляне паднялі гвалт, бо на Кучкуны далей і, каб праехаць на Кучкуны, то трэба пропуск, а ўначы зусім ехаць ня можна. А ў канцы сяляне сказалі старосце: „Калі хочаш праводзіць на Кучкуны, то правадзь сам“! Староста не адступіў ад свайго і выехаў.

А чаму так хочацца старосьце правясьці шасу праз Кучкуны?—Таму, што тудыма праяжджае асаднік з м-ку Адамарына, якога гэты-ж староста назначыў войтам у нашай гміне; — ды яшчэ тудыма праяжджае князь Друцкі-Любэцкі. Вось для іх і хоча староста сялянскімі крывёю і потам зрабіць дабро—йа шкоду сялянам! **Справядлівы.**

### Войты разам з панамі.

(Вёска Вострава, Старавейскай гм., Слонімск. п.).

Паехалі нашы хлапцы на работу ў лес за Баранавічы на станцыю Буды. — Задумаў ехаць і Пятрук Захарчук. Але ж няма ніякага дакуманту ў яго. Пайшоў ён у гміну, каб дастаць часова пасьведчаньне. Пісар пачаў ужо пісаць. ды падышоў войт, пан Онацкі, дый спытаўшыся: „на што“? сказаў: „Niech idzie do świaszczeńnika swego i dostanie metrykę“. Наш Пятрук з пакораю пайшоў, бо трэ' зарабіць на патрэбу грошай. Ацец Міхал Лавров зажадаў 15 злотых за сваю панскую „цяжкую“ працу. Пайшоў Пятрук ні з чым. Дзе-ж яму ўзяць 15 зл. папу? Ды войту зноў дай, за чыгунку заплаці, а зарабіць—як пападзе.

Дык цяпер мы ведаем, што поп і войт разам дзяруць з нас скуру. Поп за якіх 15 мінут, што чархане пяром, трэбуе 15 злотых, а наш брат працуй на іх цэлы тыдзень. Чыя цяжэйша праца?

Другі прыклад. — Бедная ўдава Вул'яна Мазоль атрымала ад сына з Расеі чырвонцы і з павесткаю пайшла ў Галынку на пошту. Зайшла да войта пасьведчыць,—яго ня было, дык начальнік сказаў, хай сьвяшчэньнік пасьведчыць. Пайшла;—ацец, калі пачуў, што чырвонцы йдуць, дык за подпіс запытаў 5 злотых. Ўдава давала 3 зл. абы не цягацца многа, але куды там. — „Ты, бабка, атрымліваеш чырвонцы, дык што табе значыць пяць злотых“, — сказаў поп. Баба болей ня прыбавіла, а ацец так й не падпісаў, дык так і ўпусціў ласы кусочак, а бедная ўдава пашла да хаты ні зчым. Назаўтра падпісаў войт за 25 грошай. Ой, айцы, айцы! вы хочаце не працаваўшы мецць, ня сеяўшы жаць, і мы на вас усіх не нарабіліся:—аднаму дай, другому дай, трэйцяму, пятаму й дзесятаму. **Працоўны селянін.**

### Добры прыклад.

Слонімшчына).

Беластоцкі староста Гедройць Тадэуш купіў маёнтак Катчына ў княгіні Палубінскай, Дэрэчынскай гм., Слонімскага пав. Як уласьнік, пан староста з каморнікам Шырко прыйшлі азначаць граніцы маёнтку. Староста ўзяў Данілу Майсюка —панскага падлізьніка—з в. Лабзова, — каб той паказаў граніцы.—Гэты-ж панскі цюцька „аддаў“ пану старосьце і сэрвітут в. Букштава.—Угледзілі гэта бабы і прыбеглі ратаваць свой грунт, а староста прыказаў Масюку прагнаць бабаў. Але бабы не далі сябе пакрыўдзіць: схапілі Майсюка, зьдзерлі з яго пасталы і, зьвязаўшы аборамі гэтага панскага сабаку, пацягнулі да блізкага рову. Няведама, чым гэта скончылася-б, каб мушчыны не адратавалі. Спалохаўся староста і на даступных варунках прадаў гэты сэрвітут вёсцы Букштава.

Селянін Сончык узяў у арэнду на 12 гад. кавалак зямлі гэтага маёнтку — яшчэ ад княгіні Палубінскай,—цяпер-жа староста хацеў адабраць. Селянін ня даў, дык староста, прыехаўшы прагнаў арэндатара з сенажаці і сам забраў сена. — Сончык аддаў справу ў суд.

Калі староста гэтак пaступае, то што робяць „кацыкі“ меншага калібру?! **Сябра.**

### „Салідарнасьць“.

(Фальв. Добра Воля, Ставэцкай вол., у Піншчыне).

Кажуць: „да чаго бык навык, таго і валом не адвучыш“.—Навык Андрэй Бухові́ч зьдзекавацца над людзьмі, яшчэ быўшы ў „бацькі“ Балаховіча, то ня можа ніяк адвучыцца навет цяпер у часы „маральнага адрадзэня“. Куды там! Паступіўшы эканомам ў фальварак Добра-Воля графіні Броэль-Плятэровай, балаховец пачуўся яшчэ на цьвярдзейшым груньце. Ведаючы добра паньску маральнасьць, што крук круку вока ня выдзяўбе, гэты „бацькаў“ сынок дайшоў да такой агіды, што пачаў біць дзяцей.

Зьнюхаўшыся з „прэзэсам“ мясцовага камітэту П. П. С., Сяргеем Лясьнічым, гэныя „коледзы“, ці „товажышэ“, хто іх ведае, разам пабілі ўначы з 25 на 26 ліпня с. г. нялетняга хлапчука з вёскі Галева, Івана Мацуковіча. „Бат“ балахоўца і кій пэпээсаўца „салідарна“ спляталіся на сьпіне няшчаснай ахвяры ў імя „братняга зьвёнзку двух сполэчных дзеячоў на Крэсах“. **Лапаць.**

## Пісьмы у Рэдакцыю.

Паважаная рэдакцыя!

Прашу пазволіць мне заявіць праз Вашу паважаную газэту, што я, былы пэпэсавец, пераканаўшыся ў манлівасьці гэтай партыі (якая напр. агітуе, каб зямлю ў абшарнікаў забіралі **з выкупам**, сьведкай чаго быў я сам на сацыялістычным конгрэсе ў Варшаве),—выступаю з яе і запісваюся ў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, якая адна толькі спасярод істнуючых партыяў правільна бароніць інтарэсы сялян і работнікаў.

**Аляксей Мысьліцкі.**

(Слонімскага пав. Старавескай гм.).

Паважаная рэдакцыя!

Мы сяляне в. Марочна, Марачанскай гм., Пінскага пав., у 1925 годзе ўступілі ў Польскую Сацыялістычную Партыю, (ППС.), бо думалі, што ўсё тое праўда, што яны казалі і сулілі. — Цяпер-жа, пераканаліся мы, што пэпэсаўцы памагаюць паном—абшарнікам і капіталістам уціскаць сялян і работнікаў.—Гэтае пераканаьне асабліва ўзмоцнілася ў нас, калі даведаліся мы, што 1 мая пэпэсаўцы стралялі ў сялян і работнікаў, ды зразумелі, як яны баламуцілі нас „маральнай рэвалюцыяй“ п. Пілсудскага.

Вось дзеля гэтага мы рашылі выступіць з партыі ППС. і ўступіць у сваю Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, якая адзіная ў Заходняй Беларусі правільна і шчыра бароніць нашы інтарэсы.

**Лявон Няміра, П. Рамановіч, І. Федзюшка, Марка Рамановіч і Іван Кохно.**

Паважаная рэдакцыя!

Мы ніжэй падпісаныя, быўшыя сябры „Пяста“, пераканаўшыся, што гэта—ашуканская партыя, што яна бароніць паноў і асаднікаў,—нашых ворагаў, а нас, беларусаў, у вастрогі садзіць, — выступаем з гэтай кулацкай партыі і запісваемся ў Беларускую Сялянска-Работ. Грамаду, з якою—толькі адною—можна перамагчы зло.

Заклікаем усіх працоўных беларусаў, якія асьлеплены абяцанкамі паноў і знаходзяцца ў гэтай партыі,—пасьледаваць за намі.

**Васіль Салей, Іван Лабань, Пётра Лабань. Трафім Салей, Мікалай Салей, Іван Майлакевіч.**

(В. Рэўкі, Скідэльскай гм., Горадзенскага пав.).

## Паштовая скрынка.

**Н. Кігану**, Міжавіцкая гм. Успамін аб радашкаўскіх курсах устарэў, — трэ было пісаць тады, як яны скончыліся.

**М. Ка—каму (?)**, Маладэчанск. гм. Запісываць словы, ужываныя ў вашай ваколіцы перасяліўшыміся з другіх паветаў людзьмі, можна, — але трэ пры гэтым адзначаць іх точнае паходжаньне.

**„Бацьцы“ ў Лужкох**, Дзісьн. пав. Карэспандэнцыя аб вучыцялю Баліцкім, які служа аднaчасна за шпіка, пойдзе ў чародным нумары.

**Стругалеўскаму Гуртку.** Вашага пісьма, дзе Вы заклікаеце Павлюкевіча і Аляхновіча прылучыцца да „Грамады“, не зьмяшчаем. Такіх панскіх парабкоў і брахуноў, як дэфэнзыўшчык Павлюкевіч, „Грамада“ ня прыймае;—„Грамада“—гэта кадры чэсных і сьмелых барацьбітаў за народную беларускую справу.

**Грам. Бандарыку.** Вы пішаце многа, але так раскідана і ня зьвязна, што немагчыма ўняць Вашую карэспандэндыю ў якуюсь зразумелую форму. Пішэце коратка, ясна, падаючы самыя факты.

**Грам. Бедаку і Янцы Б—ыку з Блудэня.** З Вашай карэспандэнцыі скарысталі, лучачы яе з іншымі ёй падобнымі, ды робячы агульную заметку. Пішэце больш.

**Грам. А. Я. Ев.** Карэспандэнцыі Вашай ня зьмесьцім, бо не падалі Вы ані свайго прозьвішча, ані адрасу.

**Ачавідцу з Лідчыны.** Апісваць, як п'яны афіцэр, зачапіўшы аэраплянам за грушу, паламаў аэраплян ды сам чуць застаўся жывы—ня будзем, бо ўважаем, што гэта ня цікаўна для нашых чытачоў. Пішэце аб фактах з жыцьця сялян ды падавайце свае прозьвішча і адрэс, бо йначай карэспанд. Вашых зьмяшчаць ня будзем.

**Падпішчыку 2760.** Не дакладна падаеце факты ў карэспандэнцыях. Вы толькі падаеце свой адрэс і пішаце: „У нас сталася тое і тое-то“. Для рэдакцыі гэтага мала: — калі пішаце аб пану, то падайце яго прозьвішча і як называецца яго двор, калі — аб папу, то падавайце таксама яго прозьвішча і парахвію яго.

**Грам. Зіне Стрыхаранцы.** „Авадзень“ ня выходзіць. Выходзіць гумарыстычная часопіс „Маланка“, адрэс рэдакцыі якое: Вільня, Гэтманская 4;—туды і зьвярнецеся, выслаўшы грошы, аб якіх Вы пішаце.

**Грам. Кабушко.** Добра, што Вы пішаце коратка, але блага, што—няточна. У Вашых заметках многа няяснасьці.

**Грам. Сьвета—кову.** Ваша вестка ня цікава для сялян—беларусаў. Калі ў падробнасьцях, аб якіх Вы маеце напісаць нам, штосьць будзе цікавае,—скарыстаем. Просім пісаць разборчыва,—асабліва ўласныя іменьні, — бо інaчай ня здолеем зьмяшчаць.

Адказны-Рэдактар: **К. Вайтовіч.** Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**